

# НЕЗАЛЕЖНІК

КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫ й ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

ВЯЛІКАЛІТОЎСКІ ( БЕЛАРУСКІ )

ЧЫРВЕНЬ – 1966 № 3 Выходзе непэрыядычна.

N I E Z A L E Ž N I K
( I n d e p e n d e n c e F i g h t e r )

Greatlitvanian ( Bielarus )
Cultural and Civic Affairs Magazine

ADDRESS: 6 Vandervoort Pl., Brooklyn, N.Y., 11237 U.S.A.

Ужываем праўдзівага нацыянальнага назову нашага – "Вялікалітва", "Вялікаліцьвін", "вялікалітоўскі" замест назову "Беларусь", "Беларус", "беларускі", урыненага нам Масквою.



Сьвятой Памяці

Др. Станіслаў Грынкевіч

памер 18-га красавіка ад разовы сэрца з прычыны знэрваваньня, на 54 годзе жыцьця. Пахаваны 21-га красавіка ў Кліўляндзе на месцкіх могілках. Напахове маліліся, разам із множасьцяй сьвецкіх Вялікаліцьвіноў, два вялікалітоўскія сьвятары: каталіцкі Пранціш Чарняўскі і праваслаўны Аляксандра Крыт. Усі Вялікаліцьвіны Кліўлянду і прыяжджомыя, бяз розьніцы веры, у вялікім смутку з глыбокім жалям разьвіталіся зь Нябошчыкам. Пачуўшы празь непаравую сьмерць Нябошчыка, такім жа пачуцьцём працяліся ўсі тыя Вялікаліцьвіны, што зналі Станіслава Грынкевіча.

Сьв. памяці Станіслаў Грынкевіч усё жыцьцё быў сьведамым Вялікаліцьвіном ды дзейным а гарачым патрыётам. Ён горача адгукаўся на ўсі праявы нашага нацыянальнага жыцьця. Быў сябрам Крывіцкага(Вялікалітоўскага) Навуковага Т-ва Пранціша Скарыны і цьвярдым прыхільнікам аднаўленьня нашага нацыянальнага назову "Вялікалітва". Із сьмерцяй ягонай наш адраджэнскі рух панёс вялікую страту. Будзем маліцца, каб Спадар Бог даў Яму рай нябёсны, а на гэтым сьвеце, каб Ён жыў у сваіх дзяцёх. Пазычма а парупмася, каб яны вырасьлі годнымі свайго Дарагога Айца.

## "КРЫВІЧЫ" а "ВЯЛІКАЛІТВА" ( Працяг )

Праўдзівы й добры назоў наш *"Крывічы"*. Таксама праўдзівы , ды шмат яшчэ лепшы назоў *"Літва"* як наш назоў агульна нацыянальны. Крывічамі мы зваліся прыраўнальна кароткі час, ды, апрача нас самых, звалі нас так адно нашы суседзі – Латышы, Ноўгарадцы, Украінцы, Суздальцы(так зваліся тагачасныя Расійцы), Палякі а Немцы, бо тады Бацькаўшчына наша ня была так шырака ведамая ў сьвеце. Ліцьвінамі мы зваліся паўсяма стагодзьдзя зь вялікім гакам, а ў ладнай сваей часьці народ наш і цяпер так завецца.Пад назовам Вялікае Княства Літоўскае гаспадарства нашае свайго часу было найбольшым у Эўропе і шырака ведамым у сьвеце. Мілёны дакумэнтаў сваіх і чужых завуць нас Літвою. Калі мы ня будзем зваць сябе Літвою або Вялікалітвою, дык каля сямёх стагодзьдзяў славутае гісторыі свае схаваем ад сьвету і ад самых сябе, а тым самым у вялікай меры і самых сябе схаваем. Ці ж можна быць такімі неразумнымі, каб гэта ўчыніць?!

За назовам "Літва" прамаўляе яшчэ аргумэнт палітычны. Ведама сьвету, што шэсьць із гакам стагодзьдзяў Літва была незалежным гаспадарствам. Калі ў 1918 годзе малая часьць гэтага гаспадарства – Жмуйдзь стала незалежнай і таксама прызнана сьветам, дык і пагатове мае права на незалежнасьць засталая яе, колькі разоў большая часьць, каторая стварыла гэна гаспадарства, каторай мова, культура, права ды ўсё чыста панавала ў гэным гаспадарстве. Гэта пераконуючы аргумэнт у межнароднай палітыццы.

Мы ня можам змагацца супроці назову *"Крывічы",* бо ён наш праўдзівы: але пяршынство маем аддаць назову *"Літва"*. Ані ня шкодна, але карысна, што мы прабавалі

Першыя тры нумары "Незалежніка" разасланы як пробныя. Дальшыя будуць пасылацца толькі тым, што прышлюць частку грошай на аплату друку – колькі хто ўважае за патрэбнае. "Незалежнік" будзе выходзіць не радзей, як раз на тры месяцы.

Выдавецтва "НЕЗАЛЕЖНІКА".

аднавіць свой старавечны назоў *"Крывічы"*, каб не рабілі гэтае спробы, дык не дадумаліся б пра магчымасьць супоўнага аднаўленьня назову "Літва" ў хорме *"Вялікалітва"*.

Як сказана вышэй, Жмуйдзіны, подле зычэньня маскоўскага, прысабечылі наш назоў "Літва" ў другой палавіцы дзевятнанцатага стагодзьдзя: а дагэнуль яны Літвою ня зваліся, зваліся Жмуйдзінамі, Жмуйдзяй(Жемайчай, Жемайтіс паіхнаму), мову сваю звалі жмудзкай, літаратуру жмудзкай і інш. За 20 межваенных год свае незалежнасьці яны пад назовам "Літва" сталі ведамымі ў сьвеце. Калі б мы цяпер ужывалі свайго назову ў хорме "Літва", дык нас абмыльна залічалі б да Жмуйдзі, было б памяшаньне поймаў. Затым маем ужываць свайго назову ў хорме *"Вялікалітва"*. Калі малая ды на'т ня літоўская часьць Вялікага Княства Літоўскага/6/ назвалася цяпер Літвою, дык вялікая часьць яго, часьць заправўды літоўская, можа звацца Вялікалітвою.

Кажнаму ясна, што Вялікалітва ё Літва, значыцца гэта нас утажсаміць ізь Літвою гістарычнаю, каторая была наша. З другога боку, дзьве розныя хормы назову, відавочна, адбіваюць нейкую розьніцу ў народаў і краёў, тымі хормамі азначаных: значыцца, назоў "Вялікалітва" адрозьнюе нас ад "Літвы" межваеннай, ад Жмуйдзі, што прысабечыла наш назоў. Хто абмежыцца знацьцём адных назоваў, тый будзе думаць, што розьніца ё, што будзе згодна з праўдаю: калі ж пацікавіцца бліжэй – даведаецца ўсю праўду. Да гэтага можна яшчэ дадаць, што край наш зваўся таксама Вялікалітвою, хоць радзей, чымся Літвою: асабліва Вялікалітвою звалі нашу Бацькаўшчыну тады, калі мелі наўвеце тыя землі вялікалітоўскія, каторыя заграбіла Масква ў 1667 г., значыцца Смаленшчыну а Севершчыну. Гаспадарства ж наша было заўсёды "Вялікае", як *Вялікае* Княства Літоўскае.

Ведама, на чужыне, мы ня зможам супоўна аднавіць назоў свайго народу і краю ягонага, але прыгатуем грунт да супоўнага яго аднаўленьня. Апрача таго, ужываючы назову "Вялікалітва"( побач з назовам "Беларусы", дзе гэта трэба дзеля зразуменьня), мы тым самым будзем сьцьвярджаць нашу нацыянальную й гісторычную апрычонасьць.

*Др. Я.Станкевіч.*

6/ Жмуйдзь ня толькі ня звалася Літвою ў значаньню нацыянальным, але на'т ня была Літвою з гляньва палітычнага, была ж, як і Украіна("Русь"), зямлёю, да Літвы належачай. Во адзін із чысьленых прыкладаў гэтага: "Мы гаспадар усіх абывацелей панства нашага, Вялікага Князства Літоўскага і *земль, к яму належачых, Рускіх, Жамойцкіх і іных,* да аднакавае роўнае вольнасьці прыводзячы, усіх падданых княскіх, панскіх і шляхоцкіх ад верху менаваных і якім-колечы іменям названых поцяглей і павіннасьцей ад сяго часу на ўсі патомныя часы выймуем і вызваляем вечнымі часы". Статут Літоўскі, б. 141.

## КАЗАКІЯ

Перад намі № 9 часапісу "Казакія", воргану Казакоў-незалежнікаў. Рэдактарам ягоным ё ведамы поэта і палітык казацкі П. Палякоў. Чытаецца часапіс ізь вялікай цікавасьцяй а некаторыя артыкулы яго і вершы – із захапленьням. У гэтым нумару "Незалежніка" мы друкуем у перакладзе "Прыпавесьць" із "Казакіі".

Казакі нашы прыродныя й каштоўныя хаўрусьнікі. Нам трэба мець із імі прыязьлівы а сяброўскі контакт. Прэзыдэнтам Найвышшага Прадстаўніцтва Казацкага ё інж. Васіль Глазкоў, вялікі патрыёт і здольны палітык.

Найменшае, што ўсі Беларусы могуць зрабіць, гэта – мяняцца з Казакамі сваймі выданьнямі, як пэрыядычнымі, так і кніжкамі. Падаем адрыс "Казакіі" :

KOSAKIA, West Germany. MUNCHEN 45
Postfach 1.

### Прыпавесьць

Плыў караб па мору да родных берагоў. Наляцела на яго бура, разьбіла яго і падарожнікі лучылі ў бушуючае мора і пачалі змагацца з хвалямі і акуламі.

Слабыя патанулі адразу.

Дужыя далей змагаліся. Але вось, зьявіліся якіясь спакусіцелі на лодках і сказалі: –Адмоўцеся ад усяго свайго роднага, тады мы выратуем вас!

Некатрыя спадмануліся.

І іншыя зьявіліся і пачалі тапіць няшчасных падарожнікаў і гукалі: –Хто паможа нам тапіць братоў сваіх, таго мы вымем із вады і забясьпечым яму добрае жыцьцё!

І ізноў некатрыя спадмануліся, пачалі тапіць братоў сваіх.

Тыя, што засталіся й не паддаліся спадману, далей змагаліся з навалаю й акуламі.

Шмат хто, адылі, змогся й тануў, крычачы:

– Браты жывыя! Данясіце Праўду Божаю да родных берагоў!

Усё меней а меней заставалася падарожнікаў, але моцны быў дух іхны, вялікая была любосьць іхная да бацькаўшчыны і дужая была вера іхная ў Бога.

І абачыў іх Бог і узрадаваўся, што ёсьць у яго моцныя й верныя людзі і расказаў навале вынесьці іх на родныя берагі.

Вялікая была радасьць таго народу, што ізноў абачыў братоў сваіх, прыбылых із далёкіх краёў і ўзьвялічыў ён тых, што вытрывалі да канца: уборзьдзе забыліся бяз сэнсу затанулых, а ізраднікі былі пракляты на векі.

*Д. Г. ( З "Казакіі" ).*

*"Кажынны раз на гэтым самым месцу, ідзе імпэрыя Расійская бараніла інтарэсы свае нашымі трупамі казацкімі, мы, казацкія казакі, ані не маніліся абяшчаць традыцай нашай паміраць за яе, але ўважаем нашымі, паўтараем, згубнымі абмыламі, каторыя хочам наапошку паправіць у незалежным быцьцю казацкага народу."*

*"КАЗАКІЯ", № 9.*

Ці ня тое самае маем асьветчыць мы Беларусы-Вялікаліцьвіны?!

## Як жылося нашым людзём пад ігом маскоўскім.

Манлівая прапаганда расійска-бальшавіцкіх русыфікатараў цьвердзе, што быццам у Расіі жыцьцё было лепшае, чымся ў былым незалежным гаспадарстве нашым, Вялікім Княстве Літоўскім, і затым быццам Вялікаліцьвіны-Беларусы імкнуліся задзіночыцца з Расіяй. Прымеж таго было наадварот. Затым, колькі будзе ставаць месца ў нашым малым часапісе, мы будзем зьмяшчаць ведамкі із жыцьця ў Расіі, асабліва із жыцьця нашага народу ў Расіі. Ведамкі будзем браць із жаролаў расійскіх.

Расійскі пісьменьнік( із зрусыфікаваных Беларусаў ), Ляскоў, піша:

"Старгорад ажываў перад дабліжэньням вясны: рака зьбіралася пайсьці, сінела й падыймалася: паабапал яе расьлі вялікія груды кулёў із збожжам, і гатавалі вялізныя стругі.

З галадавалых узімку сёлаў дзень у дзень прыходзілі да местаў груды абарваных мужыкоў у лапцёх і *белых магерках*( падчыркненьне перакладніка ). Яны набіваліся ў нашэньнікі цяжараў дзеля адных падаткаў і дзеля хлеба і былі вельма шчасьлівыя, калі іх бралі гнаць да далёкіх краёў тое самае збожжа, каторага не ставала ў іх дома. Але й гэтае шчасьце, ведама, малі ня ўсе. Пасуленьне працы далёка пераходзіла патрабаваньне яе. Праз гэтых лішніх людзёў ніхто не ўважаў сябе за абавязанага рупіцца: нанятыя – іншая справа, празь іх рупіліся. Іх прыпушчалі да ежы пры наглядніках, каторыя адганялі нагаладавалых ад казана, калі яны пад' елі ў меру. Да адвалу нагаладавалым ня можна даваць есьці: гэтыя, як іх завуць, "прагавітнікі", аб' ядаюцца і мруць ад аб' ядзеньня. Нядаўна два такія галодныя "прагавітнікі", дужасілы дзяцюкі з Акі, седзячы адзін супроці аднаго ля казана кашы, абодва ўраз пакаціліся й памерлі. Лекар рэзаў трупы і, шукаючы ў трыбусе атруты, знайшоў адну кашу: кашаю напоўнены расьцягнены да немагчымасьці трыбух, кашаю напоўненая была еча, і ў роце і ў глытніцы ўсюдых ляжала ўсе тая самая зьедзеная братамі каша. Грэх гэтае сьмерці ляжаў на наглядніку, каторы не пасьпеў упару адагнаць ад ежы нагаладавалых братоў "прагавітнікаў". Недагляд быў такі вялікі, што ў другой сябрыне таго самага дня, палуднуючы, пасінелі й павалiліся два іншыя чалавекі: гэтыя не памерлі толькі дзякуючы таму, што лучыўся ўзумелы чалавек, што ўжо бачыў такія стацьці. Іх разьдзелі да гала й дзяржалі жыватамі перад гарачым цяплом. Сяброве назіралі, як із вытапляных нашэньнікаў валіла пара, яны засталіся жывыя." *Н. Лесков – Собрание сочинений, IУ,* Масква 1957, бач. **304-305.**

У другім месцу Ляскоў піша: "Якая гэта была хвароба ( ув Арле – зацем перакладніка ), навукова не азначана, але простыя людзі яе звалі "пазуха", або "верад", або "пупырух". Пачалося гэта з багатых збожжам паветаў, ідзе, ня маючы хлеба, елі канапляную макуху. У Карачэўскім а Бранскім паветах, ідзе сяляне мяшалі жменю мукі зь нявеянага збожжа з тоўчанай карою, была хвароба іншая, таксама сьмяротная, але "пупырух". "Пупырух" паказаўся спачатку на статку, а потым прыкідаўся людзём...Выскача на целе малая скулка, званая простымі людзьмі "пупырушок", пажаўцее яе вяршок, навокал зачырванееця і за пару пачынае цела гніць, а потым і борзда сьмерць". *Лесков,* там жа, УІ, 363.

*Зацем.* Апісанае гэта Лясковам у вабодвых мясцох было ў вапошняй чэцьверці дзевятнанцатага стагодзьдзя. Як відаць із назоваў мясцовасьцяў і беларускіх "белых магерак", апісаны тут Лясковам пераважна дагэтуль незрусыфікаваныя Беларусы.

## Ведамкі праз тое, што й як было ў Расіі.

У часе Крымскае вайны Мікола І аднойчы сказаў наступніку пасаду, Аляксандру Мікалаёнку: "Імне здаецца, што ў усей Расіі адно ты а я не крадзем"("Історіческій вестнік,1884 г.,т.18,б.624).

Другі аўтар адцямляе:"Тульская шаша да таго была нягодна пракладзена, што за год па зданьню яе губэрнскаму ўраду разьлезлася". Коміся, прызначаная да прасокі гэтае справы вінных не знайшла, і Мікола І напісаў на рассудку ейным: "Шашы няма, грошай няма, і вінных няма: хоцяняхоця справу маем скончыць, і шашу нанава пракладаць"("Історіческіе рассказы і анекдоты" – Русская старіна,1879 .,т.26,б.217).

## ДА СЛОВА "СПАДАР"

У словах "господь", "господин", "гаспадар" і "спадар" ё тый самы карэнь "госпад".

Словы "господь" а "господинъ" у мове баўгарскай і ў іншых мовах славянскіх, пакольки ў іншых ужываліся, мелі тое самае значаньне, наймя значылі тое, што ў мове расійскай знача слова "господин", у польскай – "пан".

У мове стара-чэскай слова "господін" ужывалі як у дачыненьню да Бога, так і ў дачыненьню да людзёў. Пасьлей у значаньню сьвецкім гэтае слова ў Чэхаў было выцісьнена словам "пан": але ў дачыненьню да Бога "Господін" і дагэтуль ужываюць у Старым Законе Біблі.

"Господь" а "Госпад" ня два словы, але адно й тое самае слова. У мове стара-баўгарскай слова "господь" побач із хормамі правільнымі (господь, господеви, господи) ужывалі часамі і з хормамі няправільнымі (господа). У мове вялікалітоўскай(беларускай) гэтае слова, як баўгарскае, было чужым і затым сталася ў яго скланеньню выраўнаньне подле хормы няправільнае, значыцца подле "Господа" пачалі казаць "Госпад", "Госпаду", "Госпадзе" і г.д.

Па прыйме хрысьцянства Баўгары ўжывалі слова "господь" як у дачыненьню да людзёў, так і ў дачыненьню да Бога. Дзеля таго, адылі, што гэтае слова прышло да нас разам із моваю царквы, з моваю царкоўна-славянскай (стара-баўгарская мова, стаўшы моваю царкоўных адправаў, стала ў іншых славян звацца моваю царкоўна-славянскай), яго ў нас звычайна ўжывалі ў дачыненьню да Бога. Таксама было на Ўкраіне і ў Расіі. Так звычайна бывае, што калі якое слова пераймаюць із мовы, уважанай за вышшую, дык яму прыдаюць значаньне вышшае. У Расіі гэтак сталася не з адным словам "Господь", але і з множасьцю іншых словаў. Гэтак "храм" у мове баўгарскай знача "дом", а ў беларускай народнай кажны будынак завецца "харомінаю". Е гэтак і ў літаратуры. У поэме "Тарас на Парнасе" кажацца, што на пярэймы Тарасу вышаў "хароміна мядзьведзь", знач., такі вялікі, як будоўля. Прымеж таго Расійцы царкву (сьвятыню-будоўлю) завуць храмам. Але на' т дагэтуль сьвецкае значаньне слова "господь" ня зусім шчэзла ў Расіі, на' т у кнігах сьвятых. Прыкл., знаходзім яго ў вадным расійскім перакладзе Біблі, у Евангелі подле Мацьвея 25:11, ідзе кажацца: "Послѣ приходятъ и прочия девы и говорятъ "Господи! господи! отвори намь!"[1] Тут "господь" знача *гаспадар*.

У мове расійскай словы баўгарскія сусім нормальныя, яны ў ёй свае, бо расійская мова літаратурная ня ё чыста расійская, але стара-баўгарска- або царкоўна-славянска-расійская. Расійскі мовавед Н. Дурново кажа: "Нынешний русский литературный язык обнаруживает в своем составе двоякие элементы: произношения и формы словоизменения в общем совпадают с произношением и формами словоизменения московского говора, словарный же состав и словообразование, равно как и правописание наполовину церковно-славянские[2].

---

1) Библия... въ русскомъ переводе. Лондонъ. Британскаго и Иностраннаго Библейскаго Общества. 1920. *Зацемлю, што гэта пераклад "каннонический" а сынодальны.*

2) Н. Н. Дурново, Введение в историю русского языка I. Источники. Брно 1927, б. 3.

3) Пасьлей слова "гаспадар" прыняло яшчэ значаньне "собсьнік самастойнае гаспадаркі", каторы ў сваёй гаспадарцы быў такім жа "гаспадаром", як гаспадар на чале гаспадарства. І ў гэтым значаньню ё дзьве хормы —"гаспадар" і "аспадар".

4) У паўночна-ўсходняй Беларусі слова "гаспадар" вымаўляецца як "гаспудар", бо там *о* і *а* па сугуках вуснавых пераходзяць у *у*. Апрача таго, там жа ў некаторых мясцовасьцях у гэтым слове выпала *п* ,дык паўстала "гасудар", каторае й было перанята да мовы расійскае. Што яно ад нас перайшло да мовы расійскае, відаць із таго, што ў расійскай мове народнай(паўночна-расійскім нарэччу) у ім *Г* вымаўляецца пабеларуску, зн. як лацінскае *Н*. Як Беларусы "гаспадар", так і Расійцы "государь" ужывалі ў ветлых зьвярненьнях. Дагэтуль такое ўжываньне захавалася ў выразе "милостивый государь".

У мове ж беларускай, як народнай, так і літаратурнай, старой і новай, ані няма элемэнтаў стара-баўгарскіх. Затым слова "Господь-Госпад" ёсьць у ёй сусім чужым, расійска-баўгарскім.

У тых мовах славянскіх, у якіх слова "господ", "господь" было сваім, яго ўжываюць аднолькава як у зьвярненьню і ў дачыненьню наагул да людзёў, так і да Бога.

Прыклад із мовы сэрбска-харвацкае, у дачыненьню да Бога:

Blagoslovim Gospoda u svako vreme...

Да людзёў :

Gospodi moj sveti Deordije Pobedonosče. Va vreme gospoda Ivana Rahumbergara... i takoje va vreme gospoda Ermana... Mnogo naročitago, velikago gospoda amir-sultana Mahet-berga.

Прыклады ўзяты з —

Rječnik hrvatskoga ili srpskoga jezika. Na svijet izdaje, Jugoslavenska Akademija Znanosti i umjetnosti, obraduje Pa Budmani u Zagrebu, 1887-1891.

Прыклады з мовы славенскае :

Gospod: 1) višji stan: kdor ima komu kaj ukazovati (drugi po njemu nima: na svoji zemlji svoj gospod), — 2) duchovnik (gospod kat exochen): na (za) gospoda študirati: bolniku bo treba po gospoda poslati, — 3) splošno spoštliv nagovor: gospod učitelj, gospod župnik, gospod doktor, — 4) Bog : Gospod bodi z vami!

Узята зь —

Joža Glonar—Slovar slovenskega jezika. U Ljubljani, 1936.

Беларускае слова "спадар" паўстала з "гаспадар", каторае было ( і ё ) агульным назовам князя, цара, караля, цэсара, празыдэнта. Тысячы прыкладаў на гэтае значаньне слова "спадар" ёсьць у даўнейшай літаратуры беларускай і ў урадовых актах. Прыкл.: Яго Міласьць Гаспадар Вялікі Князь. Гаспадар або гаспадарыня стаялі на чале гаспадарства( рас. — державы, государства ).

Гук Г мае такі характар, што ён можа адпадаць, калі стаіць на пачатку слова, радзей выпадае ізь сярэдзіны слова. З гэтае прычыны побач із "гаспадар" была хорма "аспадар".[3].Гэтае слова ў сваіх абедзьвіх хормах "гаспадар" і "аспадар" відавочна ўжывалася адначасна як пачэсны назоў і ў ветлых зьвярненьнях.[4] Тады яго ўжывалі часта а борзда. З гэтае прычыны ў "аспадар" адпала пачатнае *а* і паўстала "спадар", даўней шырака ўжыванае ў значаньню рас. "господин", поль. "пан", ням. "гэр", анг. "лёрд". Прыклады : Хто есьць спадар? 1489 г. (Карскі, Рус. диялектология,98).Служыць сваім спадаром ку кажнай патрэбе. Статут Літ. 1588 г.

Чэскі аўтар, Матэвуш Беняшоўскі (Mateuš Benešowski ужываў ён мянушкі Філёном ) у сваёй працы :

Knižka slow českych wyloženych odkud swuj počatek maji... у Празе, 1587 г., падаў чэска-колька славянскі слоўнічак. Сярод словаў вялікалітоўскіх(беларускіх) неаднойчы сустракаецца ў ім і слова "спадар", меж іншага ў зьвярненьню "Спадару княжа".[5)]

Жанчына, да каторае ставіліся з павагаю, пачэсна звалі "спадарыня". Спадарыня, соўнца, месяц, зьвездухна, дай крошку хлеба ... Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернятка, дай ложачку дзіцятку варыўца (гэтак казалі ў галадоў). Баркулабаўскі летапісец, надрукаваны Раманавам у Вільні, 1910 г., бач. 39. Спадароў і спадарыняў разам звалі "спадарства": Яго спадарства пагібнецъ а воінства. Сказаньне а Сывілле (надр. у Варш. Унів. Йзв. 1898 г.).

Таксама "Спадар" ужывалі ў дачыненьню да Бога: Спадару Божа, чыстая вада Твая ачысьці цела мае грэшнае. Аль Кітаб 71а17. Божа Спадару, естам зь пяску створоны. Тм. 81а10. Божа Спадару, я естам ізь пяску створоны і знову у пясок пайду і пяском буду абернены. Тм. 81б2.

Пад польскім уплывам на нашу інтэлігенцу слова "спадар" было болей а болей абмежавана ў ужываньні на карысьць польскага "пан". Але ўсё ж такі дзе-ня-дзе захавалася ў мове народнай да нашых дзён: хоць рэдка, але сустракаецца яно ў творах народных і падана ў слоўніку Насовічавым( Так, як сам спадар скажа. Бач. 605).

Цяпер гэтае слова ў сьвецкім яго значаньню супоўна ў нас адноўлена. "Пану" ж пакінена тое значаньне, якое ў яго ў васноўным толькі й было ў нас, знач., значаньне рас. "помещик" ды ў дачыненьню да чалавека багатага альбо маючага ўладу, але каторыя не заслугуюць на пашану. Кажны ж джэнтэльмэн ё спадар. Пачалі ўжо тарнаваць або праўдзівей аднаўляць ужываньне слова "Спадар" і ў дачыненьню да Бога. Гэтак усюдых гэтае слова ўжыта ў перакладзе Новага Закону Біблі, зробленым а. П. Татарыновічам, і ў рэлігійных песьнях. Прыкл.: Вечны родзіцца нам сядні Спадар сусьвету бяздомны. Малітаўнік "Голас Душы", бач. 214.

Таксама ў песьні на словы "Сьсячы яе: нашто яна..." ( зь Евангелі подле Лукі 13:7 ):

Зяленівам пышна прыбраны
Цьвіў сад сярод жывых далін.
Яго вялікі, ўсім нам знаны,
Спадар-Госпад наш пасадзіў.

I кажны год Спадар нанова
Наведваў свой чароўны сад
I як расьце ён паступова
З каханьням цёплым наглядаў.

I ў іншым месцу тае ж песьні :

Тут гараднічы жалю поўны
Пачаў маліць Гаспадара :
О, мой Спадару, усяроўна
Дазволь яшчэ паспрабаваць.

Славянскія апосталы, браты Кірыла а Мяход, перакладаючы сьвятыя кнігі на мову баўгарскую, ужылі ў дачыненьню да Бога слова "господь", таго ж значаньня, што беларускае "спадар", і ніхто іх за гэта не вінаваў. Дык пагатове ня маюць вінаваць нас, бо мы ня першыя ўжываем яго ў гэтым значаньню, але прадаўжаем (часткавыя) ужываньні даўнейшыя й адноўленае.

Ужываючы гэтак слова "Спадар", мы робім так, як робяць усі культурныя народы, ужываючы ў дачыненьню да Бога слова собскага, а ня чужога. У народаў асталых бывае наадварот. Гэтак народы мусульманскія, асабліва турска-татарскія, ня могуць адарвацца ад арабскае тэрмінолёгіі ў сваім рэлігійным жыцьцю.

Затым што ў мове беларускай слова "спадар" тарнуем як да Бога, так і да людзёў, дык у дачыненьню да Бога яго будуць найчасьцей ужываць, як і дагэтуль, із словам "Бог", "Ісус" (Спадар Бог, Спадар Ісус, Спадар Ісус Хрыстос): а бяз слова "Бог" або "Ісус" толькі тады, калі ў слухача і ў чытара няма сумлеву, што яно ўжыта ў дачыненьню да Бога. Гэтак ёсьць і ў іншых народаў.

Слова "Спадар" ё найкаштаўнейшым колцам у шматтысячным ланцугу словаў вялікалітоўскіх(беларускіх), вытвару псыхікі народу нашага. Дык ня ўзрушайма гэтага ланцуга, але шануйма гэтае слова і ўжывайма яго ў вабодвых значаньнях.

*Я. Станкевіч*

Падало Крывіцкае(Вялікалітоўскае, Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны.

## Ідзе(дзе) паданы нашы прынцыпы.

У № 1-ым "Незалежніка" сказана, што ён будзе кіравацца прынцыпамі, выкладзенымі Др.Я.Станкевічам у вартыкулах ягоных у "Беларусе", але зь нястачы месца не паданы назоў гэных артыкулаў у двух першых нумарох "Незалежніка". Артыкулы гэткія: "Да пажваўленьня грамадзкае дзейнасьці" у № 87, "Шчырасьць і дзейнасьць" у № 95, "Бязьдзейнасьць, яе прычына й лекі" ў № 99, "Абавязак нацыянальнае працы" ў № 100 і "Дачыненьні памеж нас" у № 101-102.

---

5) *Олекса Горбач – Найдавніший друкований чесько-український глосар з 1587 року.* За прысланьне імне гэтае кніжачкі дзякую гэтта аўтару яе. Даводзіцца, адылі, зацеміць, што не выпадала яе аўтару назваць слоўнічак Беняшоўскага чэска-украінскім. У ім, апрача чэскіх, ё словы вялікалітоўскія(беларускія), украінскія, царкоўнаславянскія й польскія: дык праўдзівы назоў слоўнічка Беняшоўскага быў бы "чэска-колька славянскі".

## Каля Саўчыца

На ліст сп.А.Калодкі ў справе ліхадзействаў П.Саўчыца, выдрукаваны ў № 2-ім "Незалежніка", а.прот.М.Лапіцкі ўважаў за патрэбнае адказаць 6-га сакавіка сёлета на зьезьдзе сяброў Бэлер Менску. Асьветчыўшы галаслоўна, што ў лісьце сваім сп. Калодка напісаў няпраўду, ён далей казаў, што Немцы толькі крыміналістых ссылалі да концэнтрацыйных табараў, а палітычных стралялі на месцу. Гэта ані ня згодна з праўдаю. Кажны, хто жыў у Вялікалітве за нямецкае окупацы, ведае, што гітлераўцы ані не каралі крыміналістых, калі толькі яны не рабілі шкоды Немцам. Яны ведалі добра, што неморальных лягчэй зьнішчыць, чым моральных, і затым патуралі неморальнасьці. Калі ж хто зрабіў самым Немцам хоць бы найменшую шкоду, таго каралі на месцу, звычайна стралялі. *Падазроных* жа палітычна або ў *магчымасьці* палітычнага шкоджаньня Немцам, яны высылалі да концэнтрацыйных табараў. Цяжка паверыць, каб а.протоерэй гэтага ня ведаў, жывучы ў Вялікалітве за нямецкае окупацы. Сказанае ж ім гэта ў зьвязку зь лістом сп.А.Калодкі, былога вязьня концэнтрацыйных табараў, выглядае няхораша, неморальна. Судзі Божа й людзі! Свае асьветчаньне а. Лапіцкі скончыў, сказаўшы, што Касьцянцін Касяк — швагра ягоны.

## Зьмітра Бакуновіч, адзін із чысьленых паўстанцаў 1863 г.

Адным із чысьленых паўстанцаў 1863 г. быў *Зьмітра Бакуновіч*. Радзіўся ён у Троках на Віленшчыне. Па паўстаньню ўцёк ад шыбеніцы Мураўёва на Палесьсе. Там сын ягоны Захар памер у 1935 г. маючы 75 год. Унукам Зьмітравым быў Пётра, а праўнукам ё Др.Валадзімер Бакуновіч із Лунінінецкага павету на Палесьсю. У бацькі свайго Валадзімер даведаўся праз прадзеда свайго, паўстанца. У Пётры, бацькі Валадзімеравага, была захаваўшыся й "чорненькая кніжачка" — прашпарт Зьмітры Бакуновіча з часу паўстаньня, у каторым казалася, што ён радзіўся ў Троках.

Вышменаванае я запісаў у Др.Валадзімера Бакуновіча, праўнука паўстанцавага.

## Да жанібаў

Адзін мой знаёмы, сын старога эмігранта вялікалітоўскага(беларускага),ажаніўся з Іркаю. Ня маў шчасьця ані дабра зь ёю. Дурылася, часта на'т пагражала, што кіне яго й пойдзе да маці. Нядаўна ён цяжка захварэў, быў пры сьмерці. З гэтага яна скарыстала, і з добрай гасподы, за каторую плацілі 70 дал. у месяц, пераехала да другой, за каторую плацяць 125 дал. Ён ужо паправіўся, але рабіць ня можа, а прымеж таго выдаткі пабольшалі.

Другі прыклад. Адна Вялікаліцьвінка(Беларуска) вышла замуж за Жмуйдзіна. Па пары год сустракаюся зь ёю, вітаюся, яна знаёме мяне із сваім мужыком. Я, ведама, гўкаю павялікалітоўску. Муж перасьцерагае мяне, кажучы, што жонка ягоная ўжо ўмее пажмудзку. Я адказаў: "Аш не моку жмудзішкай калбэці"(я ня ўмею гўкаць пажмудзку), бо адно гэта я навучыўся. Тады яна: "А-а, дык Ваша Жмуйдзін". З гэтага бачым, што яна на'т пераняла хвальшывыя пагляды жмудзкія, што мы быццам зьвялікалітоўшчаныя(зьбеларушчаныя) Жмуйдзіны. Ці гэта бывае, калі нашы жэняцца з чужанкамі? Ці вучаць яны свае жонкі мовы вялікалітоўскае? Ці перадаюць яны ім праўдзівыя пагляды нашы?

*Дзейны назіральнік.*

## Наказуем праз добрае, каб зь яго карысталі.

— Добрым ё артыкул П. Урбана "*Спроба рэгабілітацы гісторыі Беларусі ў БССР*", выдрукаваны ў № 1(634) "Бацькаўшчыны". У ім аўтар паказуе, што вялікалітоўскія гісторыкі ў Беларускай савецкай рэспубліццы пераконуючa даводзяць, што Вялікае Княэства Літоўскае было гаспадарствам вялікалітоўскім( "беларускім" ), а ня жмудзкім. Даводзяць таксама, што народ наш зваўся Літвою, Ліцьвінамі і што край наш зваўся Літвою.

Супроці гэтага ё комуністычная партыя маскоўская. Яна войстра нападае за гэта на гісторыкаў. У гэтым, як і ў шмат чым іншым, комуністыя расійскія згаджаюцца з чарнасоценцамі расійскімі, былымі й цяперашнімі, на эміграцы і ў СССР.

— У тым жа нумару "Бацькаўшчыны" ё добры артыкул В. Пашкевічыхі "*Алёіза Пашкевічанка (Цётка)*". У ім падана ладне новых, дагэтуль няведамых фактаў із жыцьця нашае паэты й дзяячкі.

— У тым жа нумару "Бацькаўшчыны" ё нэкролёг[1] М.А. праз Язэпа Касака, тыповага Вялікаліцьвіна, прыраджонага інтэлігента з Лынтуп[2] Сьвянцянскага павету. Паходзячы зь беднай сялянскай радзімы, ён бязь ніякае школы, саматугам стаў майстрам рознага рамяства і самаасьветаю — адукаваным чалавекам. Артыкул канчаецца словамі: " Колькі цікавых ведамак хацелася б расказаць пра нябожчыка, пра замеры ягоныя, сьпярэчкі на палітычныя тэмы і асабліва дасьціпныя сьпярэчкі з тымі, што "не прызнавалі Беларусі"! Але з гэтага вышла б цэлая монографа[3], монографа бязумоўна цікавая і арганізацыйна дыдактычная". Дыкшто, што даўгая праца вышла б, — надабе пісаць!

1/ Нэкролёгам ( з грэцкае мовы *"нэкрос"* — мертвы і *"лёгос"* — слова) завуць артыкул із прыгоды сьмерці каго з паданьням ведамак із жыцьця й сьмерці памерлага.

2/ У нэкролёгу сказана "Лынтуны", хіба абмылка, бо ў Сьвянцянскім пав. ё *Лынтупы,* хіба местачка.

3/ Монографаю ( з грэцкае *"монос"* — адзін і *"графо"* — пішу ) завуць навуковае дасьледаваньне, пасьвячанае вызуканьню аднае тэмы, аднае проблемы.

– У № 2(95) "Божага Шляху" і ў № 87 "Зьніча" ё добрыя нэкролёгі ( у "Божым Шляхам" і артыкул а Я. Г. *"Мае прыяцелі – В. Аношка* ) праз *Вячаслава Анюшку*, ідэйнага сьвятара, рупнага, адданага справе свайго народу Вялікаліцьвіна, працаўня, дзеяча.
– У тым жа нумару "Божым Шляхам" ё дасканальны артыкул-успаміны дыякана Рабэрта Тамушынскага *" Дзед і бабка гаварылі па нашаму"*. Дзядуля й бабуля ягоныя паходзілі з Аўгустоўскага пав. Сувальшчыны. Каб нам болей такіх артыкулаў!
– У "Беларускай Думцы" ў № 7-ым ё добрая рэцэнзя *Я. Ляшчыны* " На берагох пад сонцам" Валадз. Глыбіннага, а ў № 8 яго ж рэцэнзя "Дзярлівае птушкі" К. Акулы. Прачытаўшы гэныя рэцэнзі, нельга было вытрываць, каб ня гукнуць: "Мы маем запраўднага й добрага крытыка!" У крытыццы Ляшчынавай ё аналіза й сынтэза: ён глыбокі, выдзяржаны, об'ектыўны й конструктыўны.

## Адцямляем благое, каб яго паправіць.

– Нельга сказаць, каб артыкул Валадзімера Глыбіннага *"Смаленшчына – адвечная зямля беларускага народу, гістарычны нарыс"* , выдрукаваны ў №4-ым "Беларускае Думкі" з працягам да яе нумару пятага, быў увесь благі. Не, у ім ё шмат добрага. Наўперад добрым ё само зычэньне выдрукаваць артыкул на гэтую тэму, зычэньне аўтарава й выдавецтва, асабліва ж Др. М. Шчорса, што даў грошы на адбітку гэтага артыкулу. Але побач із бальшынёю добрага, у ім ё месцы ня добрыя, бо абмыльныя. Адцемлю адно тое, што не патрабуе довадаў, каб яго адхінуць. Пачну з пачатку, а ня подле вялічыні заганы.

*У № 4 "Беларускай Думкі"*, да бач. 6, чарасла 1-га, радок 8-ы зьв. Аўтар кажа: "крывіцкія селішчы паўставалі ў Вазёрным краю аж да самага Белавозера, а на ўсходзе і паўдні да Акі й Дону." Запраўды ж, з выняткам крывіцкае колёні ля р. Сіці(Сіцькары), прытокі Малогі ў былой Яраслаўскай губ., нійдзе вялікаліто́ўскія плямёны не сяліліся на поўнач ад (этнографічнае) Пскоўшчыны, на поўнач ад Цьвера, а далей на ўсходзе паўночная граніца праходзіла памеж м. Рузы а м. Масквы, з аднаго боку, і Мажайска, Бароўска а Каломны, з другога: адлі йшла паўночным узьберажжам р. Акі аж да ўтоку ў яе Цны ( ад Бароўска была граніца вялікалітоўскага плямені Вяцічаў). Да Акі крывіцкае плямя даходзіла ля р. Вугры, а да Дону ані не даходзіла.

Да бач. 6, чарасла 2-ога, радок 12 зьверху: Аўтар кажа: "стварыў магутнае Смаленскае княства Расьціслаў Імсьціславіч." Не, ня ён стварыў, але стварыла яго Смаленскае веча, а князь Расьціслаў не перакажаў і прыяў гэтаму. Гэта ані ня знача, што надабе адхінуць значаньне выдатных адзінак у гісторыі.

Да бач. 9, чарасла 1-га, радок 4 здолу: У ваўтара ё "За Альгерда смаленскі князь завець сябе ' малодшым братам' літоўскага князя". Ня толькі за Альгерда, але ўжо Гедыміна смаленскі князь, Іван Аляксандравіч, прызнаець сваім старшым братам і кажа, што ўмова з Рыгаю (1316 г.) была ўчынена подле "даканчаньня" гэтага старшага брата.

Да бач. 9, чарасла 2-га, радок 11 зьверху: Супроці цьверджаньня аўтаравага ў Кулікоўскай бітве Смальняне не памагалі Маскве.

Да бач. 9, чарасла 2, далавах: У ваўтара чытаем – "бітва ля Воршы дала перамогу беларускаму войску князёў Ськіргайлы, Вітаўта ды інш." Прымеж таго бітва, у каторай з аднаго боку былі Ськіргайла, Вітаўт і іншыя, была ня ля Воршы, але (у 1386 г.) ля ракі Вехры пад Імсьціславам. Бітва ж ля Воршы была з Масквою ў 1514 г., на каторай ня было менаваных аўтарам князёў. Праз гэту другую бітву аўтар добра кажа на б. 10, чар. 2, далавах і на бач. 11, чар. 1.

Да бач. 10, чар. 1, сярэдзіна: Аўтар кажа – "Разам із вывадам маскоўскіх элемэнтаў беларускія валадары пачалі даваць жыхарам Смаленску вялікія палёгкі". Ня было такога вываду, бо ня было ў Смаленску маскоўскіх элемэнтаў.

Да бач. 10, чар. 2, радок 18 зьверху: Аўтар піша – "Пры Жыгімонтавым (Жыгімонта 1-га Кяйстутавіча) намесьніку, Андрэю Саковічу, Масква дамаглася бунту ( у Смаленску )...( князь ) Юры...адразу ж даў ходу ў Маскву". У 1440 г. не Масква "дамаглася бунту" ў Смаленску, але бунт быў "чорных людзёў" супроці баяр ды адначасна было ў Літве дынастычнае змаганьне. Князь жа Юры ўцёк да Ноўгараду, а не да Масквы.

*У № 5 "Беларускай Думкі"*, бач. 10, чар. 1, далавах. Ня згодна з праўдаю, што па 1611 г. "Літва ўжо пераставала быць незалежным гаспадарствам беларускім". Была яна такім (ад 1667 г. у меншых тэрыторных памерах) да 1795 г.

Да бач. 10, чар. 2, радок 17 здолу. Напярэк цьверджаньням аўтаравым жыхарства смаленскае ў сямнанцатым стагодзьдзю ня сьхілалася да Масквы.

Да бач. 10, чар. 2, далавах. Аўтар кажа: "У 1612 г. цар Міхал Раманаў шлець із гэтаю мэтаю (здабыцьця Смаленску) войска." У 1612 г. Міхал Раманоў яшчэ ня быў царом. Як відаць із безпасярэдняга дальшага зьместу, аўтар мае наўвеце вайну 1632–1634 г.

Да бач. 11, чар.1, радкі 7–10 зьверху. Аўтар піша: "маскоўскае войска пад кіраўніцтвам ужо ведамага ў Смаленску маскоўскага стаўленьніка – Шэйна, аблягло Смаленск". "Ставленнік" слова расійскае, і відавочна, аўтар ужыў яго ў значаньню расійскім: а знача яно: "асоба, што адзяржала ўрад на зычэньне каго-колечы або пры падмозе каго-колечы". Але Шэін быў вайводаю маскоўскім, і яму загадавалі, а ня зычылі або паддзержавалі яго: калі ж ён із сваім войскам уцёк ад войска вялікалітоўскага, дык у Маскве яго высьцебалі пугамі і выслалі на Сібір.

Да б. 11, чар. 1, радок 19 зьверху. Аўтар кажа: "І толькі за цара Аляксея Міхайлавіча, ужо ў часе Лівон-

скае вайны...Маскоўцы здабылі Смаленск". На тым жа чарасьле, радок 7–11 здолу, аўтар ізноў кажа празь "лівонскую" вайну і канчае яе Андрусаўскім мірам 1667 г.! Як быў цар Аляксей Міхайлавіч, тады ня было Лівонскае вайны і наадварот, бо Лівонская вайна была (зь пярэрвамі) ад 1558 да 1582 г.: тады ў нас быў Зыгмон III (у Польшчы ён быў Зыгмон II) Аўгуст а Сьцяпан Батура, а ў Маскве Йван Грозны.

Да бач. 14, чар. 1, радок 8 зьверху. Аўтар кажа: "Тут, на Смаленшчыне, пачынаўся гістарычны стык беларускае мовы з расійскай." Нічагусенькі падобнага! Гэты стык быў на граніцы Смаленшчыны з княствам Маскоўскім у граніцах ягоных да 1303 г., за Мажайскам.

Як можна было зацеміць, бывае, што аўтар блытаецца ў хранолёгіі і пазьнейшыя падзеі разглядае перад ранейшымі або іх разам зблытае.

Менаваныя абмылы аўтаравы паніжаюць вартасьць артыкулу ягонага. Зналыя гісторыі пасьцепаюць плячыма, нязналых гісторыі яны абмыляць: а няпрыязьлівыя нам скарыстаюць із іх, каб перачыць праўдзівасьці добраму, што ё ў вартыкуле. Затым надабе было менаваныя абмылы гэтта адцеміць.

Што ж за прычына, што компромітуючыя абмылы — зь некатрымі зь іх гімназісты не адзяржаў бы "даволі" за сваю пісань — лучылі да "Беларускае Думкі"? А прычына тая, што ў групе, каторая выдаець "Беларускую Думку", няма гісторыка, дарма што ў Задзіночаных Гаспадарствах ё сямёх гісторыкаў вялікалітоўскіх: канчальная прычына — у нашым эміграцыйным падзеле.

Людзі з тае самае групы, дакладна: т.зв. "Беларускі конгрэсавы комітэт" перавыдаюць як гісторыю Вялікалітвы кніжку аўтара безь сярэдняе асьветы, Я. Найдзюка "Беларусь учора й сяньня" — з дадаткам матар'ялу Р. Астроўскага а Йвана Касяка! Можна сабе прадставіць, што гэта будзе за гісторыя.

## ХРОНІКА

*Дохтарская дысэртаца зь гісторыі Беларусі* напісана ў вадным унівэрсытэце амэрыканскім на тэму "Беларусь пад саветамі 1917–1939 году". Дысэртаца ўжо прынята і аўтару яе, Беларусу, прызнаны навуковы ступень дохтара філёзофы ў вадзьдзеле гісторыі. Надта пажадана, каб праца гэтая была выдана паангельску, як яна й напісана.

### Асьветчаньне

Др.Я.Станкевіч выслаў наступнае асьветчаньне старшыні Нюёрскае акругі БАЗА, др.В.Набагезу :

"Зь Нюёрскае акругі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вучацьу сыботняй школцы вялікалітоўскай сп-ня Зінаіда Гарошчыха і сп-ня Зінаіда Станкевічыха(Ю.Станкевіч, што вуча там, не належа да гэтае акругі). Гэтая ж Акруга прымае некатрае ўчасьце ў Парадзе Лёяльнасьці. Вонках менаванага няма блізу ніякае дзейнасьці ў гэтай акрузе Задзіночаньня. Пры такой акалічнасьці, адылі, няма таксама зычэньня ў культурна-асьветнага рэфэрэнта акругі скарыстаць із мае некатрае магчымасьці культурна-асьветнае працы. Затым, ня зычачы быць бязьдзейным сябрам у варганізацы, я выступіў зь Нюёрскае акругі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня".



### Беларускія спортсмэны на алімпіядзе.

На алімпіядзе 1964 году ў Токіё 10-цёх прадстаўнікоў Беларусі, што ўходзілі ў зборны алімпійскі груд СССР, пакінулі ззаду спортсмэнаў 72 краёў. Подле колькасьці залатых мэдаляў гэтая славутая дзясятка была б на 14-тым месцу, калі б выступала незалежна ад груду СССР. А ў алімпіядзе бралі ўдзел груды 94 краёў.

Беларуская спортсмэнка, 16-цігодняя Віцеблянка Ларыса Петрычышка, стала абсалютнай чэмпіёнкаю СССР у гімнастыцы ў 1964 годзе.

## КУТОЧАК МОВЫ

*Рынуць*-ну-неш-не — 1) кінуць з прыкрасьці або ўлегцы маючы. *Нсл.*(слоўнік Насовічаў). Рынуў ложку на зем. *Нсл.* Кіну, рыну дый пайду ўпрочкі. *Нсл.* — 2) кінуць, пакінуць. *Нсл.* На каго ты рынуў хату, дзеці. *Тм.*(там жа) 3) пусьціць у каго чым. *Тм.* Рынь у яго каменям. *Тм.* 4) Пераносна. Рынуў слаўцом, як пярцом. Прыказь, *Тм.* 5) кінуцца. *Шсл.*(слоўнік Шатэрнікаў). Рынуў галавою воб зямлю.— *Ігуменскі пав.*

*урынуць* — укінуць з прыкрасьці або ўлегцы маючы. *Нсл.* Урынуць у яму што. *Тм.* — 2) гіронічна: Шмат даць. *Нсл.* Урынула грош убогаму, якая шчодрая паня. *Нсл.* 3) змусіць прыняць што супроці волі, *рас.* навязать, *поль.* наржуціць. *Нсл.* Чорную работу імне ўрынулі ў рукі. *Тм.* Масква ўрынула нам назоў "Беларусь".

Дзеяпрыметнік *урынены* і *ўрынуты* — змушаны прыняць што супроці волі, *рас.* навязанный, *поль.* наржуцоны. Назоў "Беларусь" урынены нам Масквою.


*Printed by: PAHONIA Printing Corp.* *230 Springfield Ave., Rutherford, N.J.*